Пролетары ўсіх краёў, злучайцеся!

# Маладняк Барысаўшчыны

№ 1.

Орган акругкома ЛКСМБ і Бюро філіі „МАЛАДНЯК"

Барысаў
— 1926 г. —

*Пролетарыі усіх краёў, злучайцеся!*

# МАЛАДНЯК БАРЫСАЎШЧЫНЫ

## № 1.

Орган акругкому ЛКСМБ і Бюро філіі „МАЛАДНЯК“.



Барысаў
— 1926 г. —

# Наша часопіс.

Думка аб выданьні часопісі вынікла месяцоў з 8 таму назад у членаў Бюро філіі „маладняк“ і ў адказных працоунікрў камсамольскай арганізацыі. Дзякуючы цэламу шэрагу аб'ектыўных умоў, есьць магчымасьць толькі цяпер распачаць выданьне.

Барысаушчына мае свае літэратурныя традыцыі: „Юная Мысль“—1919 год., „Заря Молодежи“—1920 і інш... гэта быў пэрыяд, калі адчувалася галодная неабходнасьць у рэвалюцыйна-баявым літэратурным слове. Праўда, 1921 г. ужо з літэратурнымі традыцыямі непалічыўся і пэрыяд 1921—1926 г. уяўляе з сябе парожнае мейсца ў літэратурным жыцьці Барысаўшчыны.

Наша часопісь бярэ на сябе поўнаю адказнасьць перад грамацкім зданьнём і абвязак запоўніц гэтае мейсца. Маладняк Барысаўшчыны, як мы назвалі часопісь, зьяўляецца **афіцыйным органам Акругкому ЛКСМ і Бюро філіі „маладняк“—ад гэтуль і яго ідэалёгічнае пляцформа.** Дый само слова маладняк—назва ўсебеларускага аб'яднаньня паэтаў і пісьменьнікаў, грунтам для працы якога прынята клясавая барацьба, ўжо гаворыць за нашу палітычную пляцформу. **Клясавая барацьба і ў літэратуры за пралегарскую літаратуру. Маладняк працуе пад кіраўніцтвам Камуністычнае Партыі і ЛКСМ**—ад гэтуль і вывад: наш маладняк Барысаўшчыны **яднае вакол сябе маладнякоўцаў, перадавых рабочых і сялянскіх карэспадэнтаў. Чырвонае настаўніцтва і шырокія колы культурных працаўнікоў Акругі.**

Зусім зразумелыя ўрэшцэ, і **задачы нашае часопісі:**

а) **Выяўленьне і выхаваньне літаратурных сіл.**

б) **Змаганьне за пралетарскую літаратуру і культуру наогул.**

в) **Палітычнае выхаваньне моладзі і**

г) **Высьвятленьне культурных дасягненьняў у нашым сацыялістычным будаўніцтве.**

Барысаў, як прамысловы асяродак павінен мець сваю літэратурна-палітычную часопісь, асабліва ў сучасны момант; Беларуская большасьць насельніцтва павінна знайсьці роднае на старонках „маладняка Барысаушчыны“.

## Наш заклік:

—Маладыя паэты і пісьменьнікі, рабочыя і сельскія карэспадэнты, чырвонае настаўніцтва і ўсе культурныя працаўнікі да ўдзелу ў „маладніку Барысаўшчыны“!

**Рэдакцыя.**

Р. Мурашка.

# ДВА І АДНА.

(Апавяданьне).

Я йшоў па вуліцы пад вечар.

Шчытныя цені ад вулічных прысадаў коса засьцілалі брук. Ніштаваты ветрык калыхаў засцілы ценяў, гуляў з маімі пальцамі—абкручваўся вакол іх шмат разоў, і зноў калыхаў цені і перабіраў, нібыта гладзячы, пяшчотна мае пальцы зноў.

Гублялася наўкол стракатасьць колераў: сьпераду ўзад і збоку ўбок у легкім суладзьдзі зьліваўся з зелянінаю прысадаў мяккі блакіт. Гострая разьмежаванасьць зьнікла ў хварбах. Зграбна, мастацка надыходзячы вечар скрадаў няроўнасьці іх на палатне прыроды і што-разу магутным у сваім штукарстве мазком таемнасьці разгортваў што—хвілёва прад вачыма новыя і новыя малюнкі пекнасьці.

Пярэсты плот і брук пашчэрблены, дамоў няроўны ўзровень воку ня мулілі, а ўліваліся непадзельнай часткаю ў адну мастацкую суцэльнасць вечару.

Любаваньне харастввом прыроды было-б поўнае, каб не перашкаджала трохі бурчэньне людзкіх галасоў на больш ажыўленым баку вуліцы; часам рэзкія выгукі, ды хваравіты рогат псавалі сузіраньне.

З надзеяю знайсьці агульнасьць хараства ў суадносінах паміж прыродаю і чалавекам у парадку глыбакадумнага назіраньня—перайшоў цераз вуліцу.

Я бачыў адзінак сур'езных, бачыў у бязклопатнай гутарцы пары, бачыў і вясёлую ў адзіноце дзяўчыну, якая чакала таго, хто стане ў сёньняшнім для яе блізкім.

Усё было мне так даўно знаёма і так будзённа, што я пачаў адчуваць як паступова губляецца гастрыня прыгожасьці для мяне вакол. Звычайны падарожнік апошняга—фізычная слабасьць прабілася скрозь грубы наклад паэтычна-філёзофскіх разважаньняў.

Я стаў адчайвацца што дрэнна скарыстаў вечар, стаў дакараць сабе, калі маю досыць апрабаваную наўдачамі дапытлівасьць зацікавілі трое людзей.

У сярэдзіне ішла пажылая кабета, а паабапал два мужчыны—на від рабочыя, ці служачыя, бо ў надыходзячым

згушчэньні змроку нельга разглядзець было характэрныя адзнакі. Дзеннага сьвятла ставала яшчэ настолькі, каб безпамылкова азначыць узрост кабеты і мужчын. Калі кабета спаважна выдавала на 50 год, дык па правым баку мужчына з барадой паказваў на 65, а другі, якога кабета ўзяла пад руку, гадоў на 40.

Мне ўспамянулася гісторыя пра кабету з двума мужамі. Успамянулася чаму яна мне—ня ведаю, але толькі я павярнуў назад і блізка—блізка пайшоў за імі.

—Яшчэ з год які—і Зьмітрок пойдзе на фабрыку.

Гаварыла кабета. Старэйшы мужчына, як-бы дадаў:

—І тады з нашае хаты будзе тры рабочых. Табе потым Ганна трэба будзе і на адпачынак.

—Не, пакуль сын ня вывучыцца, як сьлед, працаваць, дык я буду хадзіць. А там—трэба будзе даглядаць двох рабочых, Карпей.

—Я думаю, што табе можна і цяпер пакінуць працу, а Зьмітрок стане вучнем. Праз паўгода з яго выйдзе спэц—паліроўшчык.

—Ты ў сваю руку горнеш, Аляксей! А я хачу, каб сын вывучыў спэцыяльнасьць маткі, і каб заняў яе мейсца на фабрыцы.

Нічога штучнага ня было ў гутарцы двох мужчын з кабетай і паміж сабою.

Сталасьць не аджытых гадоў, а жыцьцёвага вопыту, пэўная сталасьць усьвядомленьня сябе, як моцнага і непарушнага ў жыцьці мяне зьдзівілі. Сур'ёзнай прыгожасьцю, здаецца, поўная была гэта трыечная групоўка.

„Дык гэта-ж тая кабета, што жыве з двумя мужамі!"—раптам падумаў я.

Я мімаволі пачаў перадумваць гісторыю жыцьця яе спачатку . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Вёска. Восень.

Дождж марудна сеецца, бы на частае рэшата пыліць на дрэвы—стырчакі, на галаву стрэх абымшалай вёскі.

На канцы вёскі ў хаце Ганны Гоман—жвавае маладзіцы—спраўляецца вясельле.

Дзе—вясельле,—там—быць павінна шмат сваякоў, знаёмых, блізкіх, маладых, старых, малых; а дзе—шмат людзей вясёлых дык там ня можа абыйсьціся без гарэлкі і музыкаў. Спрадвеку ў вёсцы ўсталяваўся звычай гэты:

запоіны, вясельле, пасажнае з пpыданкамі, падоймы—і праз увесь тыдзень гуляе дзень і ноч палова людзей вёскі: усё—сваякі сваякоў, адзін да аднаго ў будзёншчыне чужыя, а ў огуле—адно кодла.

На вясельлі-ж Ганны было ціха. Ня чуваць было пісклівых музыкаў; гарэлка ракой не лілася, як у казках, а чарка пераходзіла паволі з рукі ў руку самае Ганны, „маладога" Карпея, ды пары суседзяў: Карпеевых і Ганьніных.

Як-жа асьмелілася Ганна пайсьці насупраць звычаяў вясковых? Як не пабаялася тыканьняў пальцамі і паквольных плётак—зводаў, што абараняліся старастам і паслугачамі парадку з воласьці?

Перш чымсь адказаць на гэта, дык трэба пазнаёміцца павярхова з самою Ганнаю.

Ганна Гоман была порсткая кабеціна. Да замужу яна жыла ў бедных бацькоў. Беднасьць, неабходнасьць выкручвацца ў цяжкіх абставінах змалку, заработкі ў паноў і клопаты пра пасаг з 14-цёх год выпрацавалі ў Ганьне моцны, нікому непадлеглы характар. Яна стала дзяўчынаю, якая сама за сябе магла адказаць і абараніць сябе. Побач з цвёрдасьцю характару, як гэта ня дзіўна, жыла палкая душа, якой жадалася ў ведах выйсьці за межы вёскі, якой хацелася жыць лепш, чымсь яе бацьком. І пайшла яна супроць волі іх, калі прысьпеў час замужу. Выбрала сабе ў мужы Анопрая, недалужнага бабыля на вёсцы, якога шмат хто празваў запечнікам.

Ганна ведала цану гэтым вясковым прозьвішчам, і пасьля некаторага часу каханьня пажанілася з Анопраем.

За што пакахала яго—Ганна і сама мо‘не сказала-б. У яе нейкая крыўда была да людзей за тое, што яны зьдзекаваліся з гэтага вясковага бабыля, і нейкая жаласьлівасьць да яго. Жаласьлівасьць перайшла ў шкадоўлю, і не заўважыла Ганна як гэта сталася, што шкадоўля перарасла сябе і вылілася ў магутнае пачуцьцё.

—Каханьне...—сьмела і радасна прызналася сабе Ганна.

Замуж яе быў не такі, як усіх яе таварышак. Каханьне мяшалася з горам, гора выходзіла з настачы ўва ўсім, і, урэшце, жыцьцё давала нячуваны прыклад суадносін мужчыны з жанчынаю—чалавека з чалавекам у тых умовах.

Згодна з жыцьцёвымі законамі павінна было зьмяніцца жыцьцё Ганны. Нядоўга пражыў Анопрай—пакінуў у спадчыне пасьля сябе сына 3-х год.

Марнеючы жыла Ганна. Але інстынкт жыцьця перасіліў, бо жывым у зямлю не палезеш.

Халодная развважлівасьць мо‘на час, калі не назаўсёды, пераважыла, і гады праз тры Ганна сышлася з кавалем Карпеем.

Цяпер зразумела чаму вясельле ў яе нязвычайнае і чаму не асабліва зьвяртае яна ўвагу на звычаі вясковыя.

Ціха адбылося вясельле, бяз усякіх абрадаў.

Невядома—крыўдзіўся Карпей ці не на Ганну, што яна сядзела з ім ні як з маладым, а проста як з Карпеем—кавалем, якому стукнула ўжо 50 год,—толькі падпіўшы трохі, ён нясьмела сказаў да Ганны:

—Ганначка... Я знайшоў таго, каго хацеў. Ці кахаеш ты мяне так, як я цябе?

Разам з гэтым сунуўся з пацалункам. Ганна нязлосна адапхнула і сказала халодна:

—Можаш кахаць і можаш не. Я цябе не кахаю... Мы з табой згадзіліся жыць палюдзку і—досыць.

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Прынята думаць, што паміж зла выбіраецца заўсёды меншае і з дзьвёх нахаб—лепшая.

А ёсьць людзі, якія думаюць, што—наадварот: зло горшае прыняць лепш, каб наастатку лягчэй было збавеньне.

Апошняя катэгорыя людзей у большасьць застаецца з апраўданьнем. І першая—наадварот: выбраў зло меншае, а жыцьцё, зламаўшы волю чалавека, дае яму тое самае, большае зло, якога ён як раз і не хацеў, ад якога стараўся уцячы.

Жыцьцё жорстка карае тых, хто не падначальваецца яго жалезным законам і прыхільна адносіцца да тых, хто мужна аддае даніну належную яго рашэньням, хто не віхляецца на суровым жыцьцёвым шляху, хто з гатоўнасьцю сустракае спробы здрадніцтва з боку яго і ўперад ідзе проста, не туляючыся па завўгольлю.

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Раз, будучы ў горадзе, Ганьне прыйшла ў галаву думка. Па тым, як рашуча сьціснуліся вусны яе, відаць было, што справа надта сур‘ёзная. Але нічога не сказала тады Карпею, а падганяла хутчэй канчаць справы.

Праз усю дарогу да хаты маўчала задуменна.

Толькі, калі Карпей распрог каня і ўвайшоў у хату, Ганна паклікала яго да сябе.

—Карпей!—Сказала цьвёрда.—Слухай, што я скажу—пярэчыць ня думай. Праўда, табе з тваім характарам лепш сядзець на мейсцы, але справа жыцьця вымагае.

Ён не дагадваўся, аб чым можа сур'ёзна так вясьціся гутарка.

—У горадзе я надумалася... Мы павінны перабрацца ў горад. Немагчыма жыць так больш: што з гэтае гаспадаркі возьмеш і што ты заробіш у сваёй кузьні.

Карпей нутром чалавека цяжкага на пад'ёме нязгодны быў. З другога боку—выказанае яшчэ так нядаўна пачуцьцё каханьня не дазваляла. Бо дзе—каханьне, там—і моладасьць, а дзе—моладасьць, там—і сіла, якая ўсё зробіць, усю цяжкасьць пераможа.

Ганна настояла на сваім—Карпей з унутранным болем прымушан быў пайсьці на разбурэньне роднага кутка, дзе дробязь кожная зьвязана была з шмат якімі ўспамінамі, з абставінамі, у цяжкасьці якіх набывалася яна.

Зьвіслая галава толькі паказвала яго думкі, і Ганна добра бачыла іх, але рашэньне было канчатковае.

З таго дня Ганна пачала езьдзіць часта ў горад. Шпарка распаўсюдзілася чутка, што Ганна Гоман са сваём Карпеем выбіраюцца ў горад. Што—дня прыяжджалі купцы на хату, на гумно, на кузьню, на хлявы і на зямлю. Усіх прымала Ганна, хадзіла паказваць, таргавалася.

А Карпей з болем у сэрцы мысьлёва ўжо разьвітваўся з усім, з усім.

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Жыцьцё—вялізны вадаспад,—толькі ня ціхі і ня мірны, а гучны, ваяўнічы.

Для тых, хто ў ім імчыцца, часта бывае няпрыкметна і тое, што яны імчацца з шалёнаю шпаркасьцю ў ім, і тое, што ў ім так часта бываюць катастрофы, калі малюсенькія часткі яго прыйходзяць да нямінучае сутычкі.

Выходзіць з сутычкі заўсёды той, у каго было больш рашучасьці, хто з канечным жаданьнем базупынна ў глыб імкнуўся у каго больш рухавасьці, больш спрытнасьці і лёгкасьці. Гэтак, схопленыя шпарчынёю плыні частачкі кволай пальмы выходзяць цэлымі з віру вадаспада, а моцныя, быццам жалезныя кавалкі дубу, нязграбныя ў сваіх рухах, бы думаючы так і гэтак, разьбіваюцца на дробненкія шчэпы—стрэмачкі і гінуць неўзваротна. Зноў ім асобным ня злучыцца ўжо ў адзін суцэльны кавалак ніколі, як-бы ім гэтага не жадалася.

Вось што адбываецца ў жыцьці, калі да яго прыглядзецца ўважліва, ды не адзін толькі раз, а заўсёды сачыць і наглядаць яго нясутрыманы бег.

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Колькі год ужо жыве Ганна з Карпеем у горадзе. Цяжкі быў пачатак, а цяпер нішто.

Трапілі грошы ўсе патраціцца, калі ўдалося прыладзіцца Карпею ў кузьню.

Сьлязьмі абліваючыся, працаваў у чужой кузьні чужым молатам на чужым кавадле. З галавы не магла выйсьці свая, што па кавалку—па снасьціне склаў яе сам вось гэтымі рукамі.

Ах! як хацеў ён вярнуцца ў бывалешняе.

Але не, няма ўзвароту! Скончана!

І ня вытрываў ён—сэрца разрывалася на кавалкі—кінуў працаваць, ня думаючы на будучае.

І зноў чуцьцём жыцьця Ганна пачула і зразумела. Наймаецца на фабрыку—цягне на сабе цяжар утрыманьня сям'і. Дзень пры дні—спавіла сваё жыцьцё жыцьцём ґудкоў.

Аднойчы...

Сонечны ціхі дзень зьмяняўся на празрытую месячную ноч.

Карпей слухаў, як пасынак, яшчэ паволі, але з захопам, чытаў кніжку, і яго лагодна ахінула туга прадстарасьці. Шкода стала яму пражытага , мізэрнасьць сучаснага свайго спавіла цесна бязрадаснасьць становішча.

На дварэ пачулася гаворка. Па адным голасе пазнаў жонку, а другі быў незнаёмы.

У глыбіні заварушылася бяспомачнасьць і цяжка сьціснула старое сэрца.

А калі ўвайшла ў хату Ганна, і калі нехта сказаў „добры вечар", дык ён захацеў узьняцца і пугнуць яго з хаты, але адчуў як моцна ён прыкуты тэй бяспомачнасьцю.

—Добры вечар.

—Гэта, Карпей, наш кватэрант—рабочы з нашай фабрыкі.

Словы Ґанны пачужому гучэлі і, цяжка ўспрыймаючыся нутром, нараджалі глыбокую пустату ў сярэдзіне.

—Сядай, Аляксей, зараз павячэраем і на адпачынак.

Ня клеілася вячэра. Карпей з Аляксеем мала елі; толькі Ганна была—як і заўсёды. З розным настроем і з рознымі думкамі і спаць усе паклаліся.

Заўтра, згатаваўшы якое—кольвек сьнеданьне, Ганна з Аляксеем пасьпяшылі насустрэч гудку.

І ўвечары абодвых разам праводзіў гудок да хаты.

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Аляксей ў хаце стаў сваім сям'янінам.

Звыкся трохі Карпей. Часам праціналася, праўда, пустата але хутка праходзіла.

І зусім ня зьдзівіўся ён, быццам гэтак і трэба было, калі Ганна ў адзін вечар лягла спаць з Аляксеем.

Пяць год прайшлі ў мінулае.

Хоць кватэрант Аляксей і дасюль застаўся кватэрантам, але жвавае пухныранё з такімі-ж чорнымі вачымі, як і ў яго, вясёласьці надае хаце. У яго два таты. Абодвы яго песьцяць і абодвых радуе вясёласьць.

Ад гэтае вясёласьці спакой у сям'і: мірна Карпею і радасна Аляксею, а разам усім—добра.

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Успамянулася мне гэтая гісторыя, якую я пачуў надоечы.

Але ужо досыць, бо...

Цень начны й густы заставіў сабой шчыльна ўсе малюнкі вечару

Бурчэньне людзкое даўно ўжо сьціхла.

Гулка і далёка былі чутны мае шагі.

Вуліца ўчарашняя ўжо разьвіталася з парамі, што таптали яе ў гутарцы сваёй басклопатнай, з адзінкамі сур'ёзнымі і з вясёлымі дзяўчатамі, якія ў адзіноце дачакаліся сваіх.

Няма й маіх мужчын з кабетаю.

Мне стала чамусь-ці нудна.

Вершы А. Ніўнага.

# Ліст да маткі.

Прымі...
Ня скардзіся
Ня плач...
Я твой як быў...
...Як есьць—
і буду.
Я чуў, а мо ва сьне убачыў—
На сходы ходзіш ты...
па клюбам.—
Чытай радкамі сына радасьць
Матуля сын ня той „бандыт“
Якога даўна ў каляды,
Сьвянцонай з хаты гнала ты—
А чуў. На пяты год разлукі
Ты ў рукі сьціснула сябе
Ў царкву ня ходзіш слухаць гукі...
Дурмана гукі...
Праўда?
Не?
Казалі мне, што ты сівымі
Калісьці ў косах валасамі
Трасеш над лемантарнай кнігай
І ціха шэпчаш над радкамі...
Што Янку, чуў я ў піонэры
Паслала ты прад новым годам
Ня шлеш ка ўсім сваім „халерам“
Бальшавікоў... і „іх свабоды“—
А ўспомніш мама... не заплачаш,
Як з рук пры вестцы „камсамолец“!!!
Шчарбаты з малаком гарлач
Зьляцеў... і адляцеў за гоні ..
І не баішся ўжо „заразы“
Тэй „бальшавіцкай“.—
Помніш мама?
Здаецца сын нічым... ні разу,
Твой твар жыцьцевы не запляміў—
Маўчыш...
Сьмяешся...
Рада мною
Бандыт ня вышў з камсамольца
І я з табою—

Рад душою
Жыцьце краіц па новай кройцы
Я той жа твой
Я той жа „камсамолец“.
Я той жа, што кахаў цябе,
Як матку родную
Ў часы бяз солі,
Ў часы, якія ўжо прабеглі.
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .
P. S. Бяру твае славы ў двукосьсе
Зірні...
Засьмейся...
І прыпомні.—
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .
... Гады прайшлі... і ты ў госьці
Ідзеш к Савецкае будоўлі.—

## Песьня сталі.

Засьпявай струна заводам,
Ты машынаю загрукай!
Эй, вы думкі, карагодам
Абнміце яго рупна—
Во ён колерам чырвоны
Трубы неба падпіраюць,
А нутро яго сталёва
Шасьцярней, пілой сьпявае.
Лясь... Лясь... Лясь... Лясь...
Ве—ся—ля—ся
Жы...ш...жы...ш...ш.—
Беражы—сь—
Тук... тук... так... так...—
Так... так... так
Трэба гэдак... трэба так...
Г...р...р...Г...р...р...Дж...ж Дзын
Толькі восем нам гадзін...
Сьвіст... гамонка... шум і грукат
Сіня—чорных моцных сіл
І камандуюць ім рукі
Каляктыуна... жыва міла
Звонка... моцна... трэзва... зычна
Сіня—чорным грукацьцем
Ён сьпявае мне аб смычцы,
Шумам... гоманам... гудком.—

## Мы.

Мы Ленінцы,
Мы Кімаўцы,
Мы з весак,
Мы з заводаў.
Мы пенімся...
І рынемся
З заходау
Да усходу.
Хай год яшчэ...
Хай пяць...
Ну сорак...
„Старое у шчэнт“!!!
...Нас ня ўняць
Бо сеньня мы!
Ня ўчора.—
Няхай грыміць!
Сьвішчыць
Ў далях,
Сьціскае захад
Зубы скрыпам
Мы будзем „жыць“—
І сіняй стальлю
Давапь жыцьцю,
Новыя рытмы.—
Электра,
Радыо
І трактар—
Мы сьцісьнем абцугамі ведаў!
І гукамі у паветры
Градам
Трах... тах... тар... р... р...
Абніме КІМ сваю пабеду.—

## Да дзяўчыны.

Да цябе, любая, да цябе я
Пасылаю ў думцы прывітаньне
Я сумую... толькі не шалею
Як ў час вясеньняга растаньня.

А прыпомні, цыгане, прыпомні
Не запамятаваў я тых дзен,
Як з табой камсамолкай—раўней
Разьвітаўся пад шаптаньне клену...

Ды ці ж есьць на сьвеце што мацней каханьня
Не жартуйце вы сухія людзі—
Ой вы дні мае вязаныя
Пачуцьцем вязаны дні і грудзі...

Ты прыпомні, любая, прыпомні
Не далека ж уплылі часы,
Як з табой камсамолкай—раўнею
Я на весцы сенажаць касіў.

І калісь ў камсамольскім клюбе
Ў ружовы сёмы дзень нядзелі
Намі ўдвох чытаўся Ленін—люба
Ў кнігу мы і сонейка глядзелі.

І з канём, касой і кнігай
Было проста ваяваць лягчэй
І жыцьцё мазольнае, адлігай
Растаплялась ў роднай ячэйцы...

Ой, прыпомні ж. Не забыць ніколі
Жыць—кахаць, то мо й жыцьцё—кахаць

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Помню дні ў залацістым полі
Звон касы на роснай сенажаці.—

Верш Мацэвіча.

# Парабак. *)

Радзіўся ў беднай сям'і я,
Бацькі яшчэ пану служылі:
Гора мазоль—бедавыя
Мяне, што каханка абвілі.

Ня ведаў, што, як ў прыродзе
І шчасьцем людзкім за што звацъ
Ад роду дванадцатым годам
Пачаў я сам хлеб зарабляць.

Ўсяго і багацьця мне бацька заставіў—
Шырокія грудзі ды плечы
Ігрышча жыцьця не вясёлае справіў,
Як бацька і я тым галечам.

І я, як і бацька ў вопратцы рванай
Нібы жабрак той па людзям хаджу
Нядоляю горкай, што стальлю скаваны
Скрозь сьлезы на счасьце гляджу.

Як гляну на жыцьце... з самотаю гляну
І шмат жа жывуць без бяды—
А я ім служу—што й бацька мой пану
Складаў залатыя груды.

Але што-ж
Хоць жыць мне і цяжка, нічога ня маю
І долю я горкай заву,
Але я свабодна у жыцьці гуляю
Любоў спавіла галаву.

Любоў да людзей, да раднога Савету,
Любоў да дзяўчыны: лясоў і касы
За тым і любоў, што па новаму сьвету
Так многа бадзерай красы.

Я бедзен... Я бедзен, але за свабоду
І спадчыну бацькі аддам.
Пайду, ахвяруюся справе працоўных
Не так, як мой бацька панам.

*) Верш напісаны парабкам камсамольцам з Бягомльскага раёну.

т. Паўлоўскага.

# Пачулі.

(Апавяданьне).

Цёмная вільготная васеньняя ноч.

Жалабна выў—галасіў вецер, страсаючы апошнія лісты алешніку. Гулка пляскаліся хвалі аб бераг.

Пеніліся, раваліся заліць берагі.

З нейкай напружанасьцю чакалася, што вос—вось разьюшаны вецер зьнішчыць, пакрышыць ўсе перашкоды.

У гэту сьцюдзеную ноч восені Данілу Качану давялося стаяць вартаўніком папярэдняе лініі на фроньце.

Аванпост быў над самай ракой, за якой у вадлегласьці ня больш 500 мэтраў была польская пазыцыя. Крокаў паўсотні назад, быў склеп, часова заняты каравульным памяшканьнем. А далей за склепам на скора зрабіушы акопы ляжала астача быўшага полку чырвонаармейцаў пасьля грознага, упартага бою. Мокры, зморены, галодны, Даніла было ўжо заснуў у склепе, салодка сьнючы, як нечакана пачуўся голас начальніка посту.—Качан, а тов. Качан!—

—Што?—

—Ідзі братку падмяні Сасновіка, а то ён зусім раскіс—

—Добра, зараз.—

Сказаў Качан, механічна падняўшыся, зьбіраючы зброю. Гэта быў яшчэ малады хлапец, але моцна гартованы і ўсей істотай аддана справе рэвалюцыі барацьбіт.

Ў самую небяспечную хвіліну, ён невіхаўся, не баяўся погрозы сьмерці; цёнгля адважна убойку ішоў і перамагаў, яго ўжо і думкі былі зложаны толькі гэдак. На яго можа было спадзевацца заўсегды. Але сёньня замучаны зьнямогай, голадам, сьцюжай, як толькі узьняўся на ногі, яму пачуўся скогат ветру і дождж, які безупынку лупіў па зямлістай страсе. Гэта музыка цемры васеньняе ночкі напоўніла яму сэрца сьцюдзёной жудасьцю.

Зараз-жа яго ваяцкае выбражэньне пералажыла гэтыя гукі, на вядомыя яму душу—падзіраючыя—вайсковыя. Выцьцё ветру яго ўзводзіла на ўспамінак палёту знараду. Дождж барабаніў, нібы шарапнэль па казырку акопа.

І гэта ўсё так хутка ускружыла галаву Данілу, што ён на імгненьне забыўся дзе, і што з ім. А, ачнууся калі начальнік азваўся у другі раз.

—Ну, што ці ў парадку зброя?—

—Усё ўжо гатова.—Натка на ўсякі выпадак заткні гранату за пояс...—

—Давай не пашкодзіць і гэта!—

І Даніла крэпка засунуў крук гранаты за рэмень.

—Слухай, Качан, вось гэты тав... пойдзе з табой падчаскам—сказаў начальнік.

—Ты гатоў?—Гатоў.—Адказаў падчасак.

—Мы пашлі, ня сьпіця-ж тут.—Дзе там не дасну цяпер. —Прыслухайцеся калі што—дам ведаць.— Пры астатніх славах начальнік сяброўска хлопнуў паплячу Данілу сказаўшы: —Ты адказны за полк.

Быў полк падумаў Даніла—а цяцер жменя.—Прыкра, ня люба было слухаць апошнія славы начальніка, але згодзіўся— начальнік павінен напомніць, яго абвязак. Пашлі.

Напружыўшыся з астатніх сіл, не зварачаючы ўвагі на гразь і дождж, ішлі проста да рэчкі, дзе пад алешынай на ўзьбярэжжы чакаў Сасновік з падчаскам падмены. Вось ужо перад ім у цемры выразна відаць чорнымі гмахамі алешыны.

Пашлі Сасновіка, той драмаў усьпершыя на вінтоўку часта ўздрагваючы.

Качан ты?—

—Я, цішэй, ідзіце грэцца... што з таго боку нічога ня чутна?

—Нічога, вецер бунтуіць...—Ідзіце толькі цішэй... Скажы, доўга спаў?—Ды не толькі вочы зьвёў.

—Глядзі не мані, бо боязна, каб сюды не пералезьлі.

Пашоў Сасновік.

Даніла перашапнуўся з падчаскам, пакінуў яго на мейсцы стаяць—сам падаўся наўперад да рэчкі, ціха крадучыся. Потым стаў прытуліўся да камля алешыны, прагнуча ловячы гукі па асобку.

Змоўк, зьліўся з змрокам ночы, як бы яна яго праглынула ў сваей страшэннай пасьці. Штось пляснула па вадзе і зноў заглушыў усё вецер.

—Спускаюцца.—

Мільганула думка ў галаве Данілы. І хоць больш нічога ня было чуваць. Ён чамусьці верыў, што сеньня на-

пэўна будуць наступаць, пакуль не ўмацавана пазыцыя. Пільней упіўся ў змрок ловячы гукі. Агоньчык зялёны мільгануў за рэчкай і зноў згінуў.—Воўк перабег.—Сьцішаў сябе Даніла, хоць у глубіне душы штось не пакоілася, штось грызла, шаптола: „ня тоя" шчыльней прытуліўся да камля, моцна сьціснуўшы вінтоўку ў руках; задумаўся.

Пачаў рабіць падрахункі: колькі у жыцьці было ночак такіх. Потым перанесься думкай дамоў—у ціхую шэрую вёску. Мары ляцелі, а не адступная думка—благая лезла ў галаву—заснуць; нават нейкая салодкая млявасьць прабегла па целу. Даніла не даваўся ей у рукі, адганяў страсаючы галавой, пасьля чаго вада з мокрай шапкі цякла за каўнер; сьцюдзенай зьмейкай вілася па плячах выклікаючы штучна бадзёрасьць. Усё сьціхла на момант, як бы прарочучы новае, страшэнное парываньне буры. Ў гэты момант жудаснай цішы Даніла ўлавіў некалькі выразных, ня чутных да гэтуль гукаў. —Тут.. лісьцё шуршыць пад нагамі... ідуць... Сударагва сьціснуў вінтоўку рынуўся ў перад,—спыніўся.

—Убачаць—гукі мацнялі—ня ужо выбражэньне ашукаіц. Памкнуўся назад, да падчаска

Бервяно.

Лег прытуліўся.

Жалабна галасіў вецер над галавой голымі дубцамі алешніку.

—Стрэліць...

Не боязна каб не ашукацца... Нічога не бачна.

Ня усьпеў Даніла апамятацца, агледзіць зброю, як на яго штось важкае, мокра-сьцюдзёнае навалілася на галаву і грудзі. Вобач недалека захованы змрокам заенчыў падчасак.—Значыцца абодвух...

Яго крык ня ўчуюць, а мне... і мне ўжо ня крыкнуць...

Здрадзіў... Здрадзіў... Загінуў.

Перад вачыма паўсталі сонныя чырвонаармейцы ўвакопчыках, склепе, успамніліся тыльныя часьці, вёскі... Сьпяць усе бясьпечна, ня знаюць паграза, а яна суніцца з за рэчкі чорнаю хмарай.

І ўсяму вінават толькі ён, ён Даніла з падчаскам, праз яго ўсе пагінуць.

—Ёсьць рада.—

Не. вядомыя вяжучы рукі не спадзеўкі прыціснулі да галоўкі гранаты. Хапіў за бляшку... Садраў.

Усё ўжо гатова шнурок у руцэ.

Самагубства...

Рвануўся з астатніх сіл—нічога,—моцна гмахі трымаюць.

Хоць бы пачулі...

Здрыганулася рука...

Ірвануў шнурок.

Зашыпеў капсаль пры боку...

Сэрца прыціхла...

Па галаве нібы хто луніў малатком, зьвінела ў вушах... Бегалі мурашкі па целе.

Тр-рах!!!

Рыгнула кроўю граната, і ў весь ком зблытаных цел разьмяцеўся хварбуючы вогня—кроўю цемень паветра.

Пачулі. Змрок абудзіўся.

Закіпела, агнём запенілася перш ўсе драмаўшае; яскрава—зялёнай вужакай праляцела ракета рэжучы цемру. Засакоталі кулямеры.

Далека за лесам агнём кашлянула гаўбіца.

Сьвідруючы паветра прасьвістаў знарад—зваліўся, цяжка ўздрыгнуўшы, узьняў агнёвы слуп зямлі.

Масты цягнуць!.. агню, болі агню!..

Ня ў свой дух крычаў наглядальнік.

І ў весь небаехіл заліўся агнём.

Нехта крычаў... Нешта трашчэла... Нешта шлепалася ў раку... Выў, галасіў вецер, і усё гэта зьлівалася у вадну грозна-агневую музыку. Ні гука выразна. Нічагуткі не бачна, маланкай мігаціць прад вачамі: бляск, цемра, кроў, агонь. Усё ў зямлі, ўсё глушыць і нішчыць гэта страшэнна дзікая музыка на часткі душу падзіраючы. Урэшце зьбілі масты, асадзілі...

Пачало ўсё сьціхаць. І на золак калі сонца пусьціла залацістыя косы—скрозь было ціха. Неба чыста прыбранае ад хмар блакітнымі вачыма ўзіралася на страшэнныя падзей людзей.

Грозная ціш.

Выкацілася сонца без праменьняў, чырвонай вагромністай куляй, нібы й на яго сёньня хапіла крыві ахварбавацца. Глянула пудка вачыма таго, хто варашыўся да спатканьня—застаў хаўтры.

Спазьнілася спыніць, цяпер ўжо позна.

Ракой плылі мерцьвякі, кавалкі маста.

Стагналі раненыя... Падмой не было...

Ніхто не адважываўся парушыць пакой.

Толькі кволы ветрык зьлегка галінкі гайдаў, павіслыя ў ночы адбітыя.

Людзей ня бачна.

Ціха нясьмела над полем каршун праляцеў хвалючы нашы пасьпехі. Мы белых адбілі без значных утрат, толькі Качана з падчаскам знамі ўжо больш не было.

На месцы Данілы чарнела, як рана калдобіна ў груньце вільготным, а наўкол яе валяліся ласкуты вопраткі й цела. Вобач недалёка лежаў яго памоцнік—падчасак прасаджаны штыхам у грудзі...

Наша шчасьця—пачулі, покліч прадсьмертны пачулі да змачаньня і, перамаглі.

...Шапталіся ў ямках жывыя.

**Вершы С. Фоміна.**

# Н о ч.

**(Сястры Раі.)**

Месяц, месяц... Ой як залаціцца
Хіба-ж можна цяпера заснуць?
Дарагая мая сястрыца
Прасьпявай што нібудзь пра вясну!

Што нібудзь... Ну чаго спахмурнела?
Ну чаго?... Дарагая сястра?
Чуеш? песьня задорыста сьмела
З камсамольскага чутна двара.

Нясумуй! раніцой ў камсамоле
Зробіш добра, на дзіва даклад
...Аб вясновым рамашкавым полі
Камсамольцаў сям'я завяла...

Ой глядзі месяц так залаціцца
Хіба-ж можна цяпера заснуць
Засьпяваем—ка дружна сястрыца
Камсамольскую нашу вясну!

* * *

Я бачыў вас даўно. І многа праляцела
З тых пор лятункаў агнявых
Былі тагды дзяўчынкаю нясьмелай
Прайшло...

Мяне забылі вы.

Вам неспознаць мяне... Ды мне й нядзіва
Дарэмна зірк я ваш лаўлю.
А помніце

Калі ў сувеі сьліў

Сказалі ціха мне „люблю"?
Мы бачыліcь даўно. Мяне вы—не спазналі
Кранулі з сьмехам вы касой...
Блышчэлі сёньня ў вас занізкамі каралі
Апошняй разьвітальнаю сьлязой.

Вершы Паўлоўскага.

# Барысаў.

Мінулым славен і каштовен,
Дарыўшы гонар чужакам—
Бяз ліку бураны, дратован,
Мо ў соты раз адбудаван.

Ажыў, як волат пасьля бойкі...
На целе раны зіхацяць—
Нага ж дрыжачая з :апалам
Імкнецца ворага таптаць.

Мой любы краю, горад родны.
Чаго, чаго ня зьведаў ты.
Гадоў вялікага змаганьня
Наўкол раскіданы сьляды:

Тут Чычагоўскае вар'яцтва:
Равы і наспы дол—гарой.
Есьць году пятага ахвяры:
Скляпы, паросшыя травой.

А вынік панскага банкету,
І роспач белага арла—
Упісан кроўю у памяць люду
Падковай ўланскага каня.

Шчэ так нядаўна—кожны помніць—
Руіны грэлі чарнатой:
Цяпер электрыка галубіць
Ґаўстаўшы гораду прастор.

Сэрца весела так б'ецца,
Ўторыць радасна на вэкол,
То аўтобусаў рыканьнем
То ґрымотай цягніккў.

Дні бягуць, мацнее сіла,
Раны хутка гоіць час,
Краю родны, говар любы,
Вось за што кахаю вас.

# Па шляху.

Вецер сьнегам абдувае,
Пад нагамі шлях скрыпіць,
Поле з небам дзесь зьліліся—
Сівір сэрца халадзіць.

Край нязьведаны прад намі:
Шлях безкрайны, шлях даўй
Ўецца стужнай цемнаватай
Сярод поля—прастыні.

З лева дуб—курган на права,
Ўсе мінаю, тону ў бель,
Сані скачуць па ухабах,
Сьвішча злосная мяцень.

Вёска: дробныя хацінкі
Шлях абселі з двух бакоў,
Шмат хто верніць абагрэцца
Мне-ж далека... Гэй пашоў!

# Раньнія птушкі.

Дыміцца фабрыкамі горад.
Нясецца сьвіст і гул машын,
Старое поле трактар верніць,
Саху кідае селянін.

А песьня ўсе акампануіць:
„Збыліся мары, досыць сьлез“.
Спрадвечны раб жыцьцё адновіць.
Пад гром машын, ды шопат лоз.

За дабрабыт, людзей працоўных,
На межах шчырыя сыны—
Змагаюць сівір з непагодай,
Бы птушкі ў раньні час вясны.

Крычыць зіма:—зьявіліс рана!
Плюецца сьнегам, сьцюжай тне.
Прадвесьня-ж птушка не жважае—
Упарта марыць аб вясьне.

. . . . . . . . . . . . . . . . . .

Бываюць грозныя зазімкі,
І губяць птушку не адну,...
Бяссільна сьмерць спыніць імкненьне
Страчаўшых першымі вясну.

# Вечар

Гораду гоман
Буяніў па бруку.
Пырскалі пенаю:
Вокны сьвятлом.
З запраўднымі, штучных,
Сьвяцільняў зіяньне...
Зьліўся між стрэхаў
Узор.

Лапікла сіні
Далёка—глыбокай,
Ветрык гуляка палёў:
Ціха прыцьмілі
Заслонай дзівоснай—
Скрогат аўтобусоў,
Гымны аркестраў,
Подыхі скверу
Гульбой.

Вабіла даль—
Трапятаньнем асіны,
Ясакар серабрыстой ліствой:
Там, п‘яніла цішу паўзмроку
Жалейка, мінулага даўна
Жудой.

Ніклі ў прасторы,
Шыбалі да неба...
Скаргу на трубы нясьлі:
Гукі пяшчотай
За сэрца шчыпалі—
І ніклі маўкліва
Ў цішы.

# Над Акой.

Падамной рака чарнеіць,
Страшыць сьцюжай глубіны.
Грозна даль палёў сінеіць
Сярод ночнай цішыны.

Сьцішна ўсё, ні дзе ні гука...
Жаб, Драчоў іх тут няма:
Толькі злоты перапёлка—
Пералічвае адна.

Аганькі іскрыстых зорак,
Маняць вабяць да сябе:
І чароўнасьцю таемнай
Ўскалыхнулі думку мне.

Туды, ў даль ірвецца сэрца
К тэй сямі, што ля вагня—
Супачыць лягла па працы,
Працы цяжкай, як касьба!

*г. Паўлаў Ніж. губ.*

* * *

Запалаў зарой, зардзеўся
Масанджовасьцю язьмін;
Маняць погляд скрозь празрыстасьць
Гронкі чырваньню рабін.

Ніткай срэбнай ў бляску сонца
Павучыньне зіхаціць,
А з блакіту паднябесься
Разьвітаньне гусь крычыць.

Я калісь з табою рваўся,
Птушка волі пашукаць,
І як ты не знаўшы межаў
Вясну ў восень шоў спаткаць.

Дык ляці-ж, сьвідруй паветра
Зычным воклікам будзі
Перадай усім па шляху—
Вясну ў восень мы знайшлі!

# Цягнік.

Гулкім гулам,
Звонам сталі,
Пукам іскраў—
Сьвяці ў даль.
Скрогат пырскай,
Рэж прастор!

Абудзі разлог маўклівы,
Сполах сонным кінь кустом.
І з маіх вачэй змароных
Скінь дакучны, прыкры сон.

Абымай, цалуй разлой
Сьпеў твой дзікі—гонар веку,
А за пэўнасьцю дарогі
Сочыць спрытна чалавек.

Падгару.

З гары.

З вароты.

Ўсё ён зьведаў.
Рукой зважыў.
Крокам зьмерыў.
Паліў потам...
Скрапіў кроўю—
І... за назву чалавек.

Гэй, ляці-ж стальны—бяскрылы
Хатак ціш начны будзі:
Злучу роднага прасторы—
Рэж у межах абручы!

*Смаленск—Масква.*

**Верш Алесі Новік.**

* * *

Зажаўцела жыццо маладое
Васількі ў ім амаль адцьвілі,
Над ім жаўранак з песьнямі ўецца,
Стрэлкі скокі спраўляюць над ім.

Аб траву з каласамі сярпочак,
Так вясёла прыемна скрыпіць,
Я зразаю сярпом каласочкі,—
Кладу стаўлю ў парадак снапы.

Зьверху сонца вогністае смале:
Сьпіну, чорныя рукі і твар...
Над зямлёй легкі ветрык гуляе,
Асьвежалючы потны мой стан.

Ад сьвятаньня стаю і да вечара,
Разгінаю згінаю сьпіну.
І зьнямогу дакучную прыкрасьць,
Залацістым калосьсем ганю.

А як сонца схаваецца ў лесе,
Я складаю ў копы снапы
Быстра крылая песьня жніўная,
Над палямі нясецца тады.

Туманы над зямлёю садзяцца,
Як бы з лесу выходзяць яны.
На балоце драч песьню заводзе.
Дае знаць аб пачатку начы.

Дае знаць, што дзень скончыўся палкі,
Наступілі спачыну часы.
К працы цяжкай вясёлай назаўтра,
З новай сілай адважна ісьці.

Р. Мурашка.

# Стары Бальшавік

(Партрэт).

Бурамі, жыцьцёвымі бурамі твар яго абветраны.

Шлях змаганьня, барацьбы з маленства зморшчкамі глыбака-думнымі адбіўся. По згодзе з бурамі жыцьцёвымі, уздоўж і ўпоперак яны ўзарали паверхні сталёвае выразнасьці.

Адбітак умоў цяжкае працы за рэвалюцыю.

Аб дзесяцігодзьдзях барацьбы, аб катарзе і турмах чытаць можна ў глыбока-думных зморшчках.

Ён—рабочы—агітатар.
На катарзе стараны вучань.
Ён—тэорэтык-рэвалюцыянер.
Кіраўнік-арганізатар паўстаўючых мас.
У бойках—вайсковы начальнік.
Чэкіст...
Вучоны...
І таварыш
блізкі
родны
сэрцу.

Гэта, калі маўчыць.

А калі загаворыць на трыбуне—рухацца пачнуць зморшчкі глыбока-думныя, пачнуць гаварыць.

І чарадою цэлаю праходзяць прад вачыма эпізоды:
ідэі ўразуменьне,
жаданьне барацьбы
і радасьць бур,
малюнкі жудасныя катаргі,
вільготныя глухія адзіночкі,
зьбягі,
палкае жаданьне волі
гук гармат і
шчасьце вызваленьня,
апанаваньне воляю зямлі.

Простая зачоска раскідаецца, і сіваватыя валасы ўparta атуляюць твар сталёвы.

Блішчаць агнямі вочы, адценьнямі пераліваюцца...

... Марудна праходзіць поўнач цёмная,
То поўдзень чарнавокі, бурлівы, рухавы,
Разважлівы, халодны, шэры захад,
То ўсход малюнкавы стракаты.
Яго няцыя—Інтэрнацыянал!

Падхапляюць сэрца эпізоды, круцяцца навокал карагодам, і нясуць, у непазбыўную мінуўшчыну нясуць яго.

Як-бы быць хацеў тады на яго месцы я!

То-ж няўмірушчае!

Ён не памрэ!

Ён вечна будзе жыць сярод свайго народу.

Як-бы я хацеў у мінуўшчыне быць на яго месцы!

Вы сама захапіліся, заслухаліся, і раптам—воплескі.

Лапці, рабочія блузы згоду мазалямі падаюць:

—Яны за ім заўжды і пастаянна!

Цяпер вы толькі абуджаецеся ад уражаньняў малюнкаў гэраічнай пекнаты ў змаганьні-барацьбе.

А ён ужо пушчае сіняватыя кружочкі дыму і весела-сур'ёзны рассыпае сьмех.

Рэвалюцыянэр—

—Крыштальны—

—Прафэсыянал.

Ні пяром пісаць партрэт яго, і ні фарбамі мастака, а выкладаць мазаікой, кавалкамі з жыцьця.

Верш Р. Івашкаўца.

# Разьліў Бярэзіны.

Разьлілася ты сіняй хваляй,
Разгарнулася ва ўсе бокі,
Лед магутны узарвала
І пагнала яго ў скокі.

Ты балюеш дзень змаганьня;
Вызваленьне з пад аковаў,
І вясьне ты на спатканьне
Разьліваеш дол шаўковы.

Эх, Бяроза, ты бурліва!
Колькі крові ты сялянскай:
Ад расправы белапанскай
Сіняй хваляй сваей змыла.

Колькі ў сьцюдзенай хвалі,
Маладых байцоў чырвоных
Ад паляцкіх куль шаленых—
Мейсца там сабе спаткалі.

І цяпер, як ўсе ціха
Разьлілася ты шырока,
Як бы хочаш змыць ўсе ліха
І загнаць яго далека.—

Верш В. Жызьнеўскага.

# Вёска.

Тут, дзе мохам абросшыя стрэхі,
Дзе на полі былінка расьце,
Дзе пад хатай бярозка стаіць для уцехі,—
Тут мае жыцьце цьвіло і цьвіце.

У глухой весцы я рос, гадаваўся.
Рэдка словы людзкія чуваў;
Чуў, што лес гаварыў, прыслухаўся,
Ён мне казку жыцьцеву казаў

Я тут зжыўся з усім мне знаемым,
Я ўладар тут лясоў і балот.
Не казаў я нікому нічога...
Толькі слухаў, што шэпча чарот.

Веска мілая, родны мой кут,
Ты уцеха мая, асалода...
О, як весела жыці мне тут,
Як зайскрыцца улетку пагода.—

Верш. С. Касьцюка.

# Энгель-Ботвін.

(Ахвярам польскага Камсамолу).

Яшчэ маланкі з пярунамі
У храмах панскіх вун дрыгочуць,
І над бунтарскімі сынамі
Няволю вечнай зрабіць хочуць.
Яшчэ нядаўна, як учора,
Агнём пярунавым абліты
Так здрадна, марна і так скора
Адзін з мільенных быў забіты—
Э н г е л ь
Цяпер, сягоньня перад намі,
Ізноў знаемыя падзеі,
Ізноў над нашымі братамі
Шалеюць панскія зладзеі,
І ўжо паўторнае пасьпела:
Сярцы працоўнага пачулі,
Як за яго і з песьняй сьмела
Стаў малады хлапец пад кулі—
Б о т в і н.
Пачулі кліч яго к народу,
Жаданьнем блізкаго яму
„Далоў тэрор. Жыві свабода."
І стук як рушыў на зямлю...
Страляйце панскія пяруны,
Ў прадсьмертных здрыгах капітала.
Страляйце, рвеце жыцьця струны,
Покі часіна не настала
С ь м е р ц і.
Кроў Энгеля-Ботвіна расою
Апала ў колы працавітых,
Якія самі і сабою
Вялікай помстаю аблітых
Рыхтуюць цэлыя мільёны
На зьмену тым, што паляглі
Ды не забудзься пан шалёны,
Што ёсьць заступнік на зямлі
У іх КіМ.

Мік. Аляхновіч.

# МАЛАДНЯК

Сягодня аб Маладняку вы пачуеце ў розных кутках Беларусі.

За тры годы сваей працы шырока і глыбока пусьціў ён свае карэньні ў Беларускую глебу.

За такі пораўнаўча кароткі час ён ахапіў маладую Беларускую літаратуру, тую літаратуру, якая забуяніла на вузкіх загонах Беларускай літаратурнай рэчавістасьці, узорных плугам кастрычніка.

Прышла рэволюцыя, тая рэволюцыя якую чакалі, якую звалі ў сваіх творах Беларускія поэты і пісьменьнікі.

Бо старая Беларуская літаратура поўна, да краеў свайго келіха была поўна чаканьнем.

А каліж поклепім косы

На чырвоныя на росы?

Пытаецца Купала ў 1912 г. ў сваей поэме „Сон на кургане.“

Яшчэ раней Цётка моцна кідае ў гушчу Беларускага сялянства:

„Веру, братцы, людзьмі станем

Хутка скончым мы свай сон.

Кончыўся сон, адышлі ў цемру мінулага „думы цьмы недабіткі з краснаў матчыных“.

Адышлі далека.

Цяжкае, бяспрытульнае жыцьцё мінула. Сонца, яскравае сонца нацыянальнае і сацыяльнае свабоды глянула прыветліва і ў ваконца Беларасі.

Але не „в венчіку із роз“ прышла рэволюцыя.

У крыві, вогнішчы пажарышч, упартай барацьбе за волю і лепшую долю прышла рэволюцыя на Беларускія, ужо не „зачараваныя“ гоні.

„Дымам і пажарам зьнішчаны палацы

Кроўую новай рацi змыты злыдняў сьлед“

На вогнiшчы, якое осталося пасьля акупацый Беларускi рабочы i сялянiн будуюць новае жыцьце, будуюць новы сьвет.

Прачынаецца вёска, якая стагнала спачатку пад уладай паноў, а потым акупантаў. Цягнецца да гораду, каб адзiным, дружным фронтам пайсьцi на барацьбу за новае, сьветлае прышоўшае.

I вось у гэты момант, момант калi трэба было ўсе культурныя сiлы накiраваць на дапамогу гэтаму прышоўшаму на гiстарычную арэну новаму барацьбiту старая Беларуская лiтаратура замоўкла.

Бо нельга лiчыць лiтаратурай, якая звала да новага жыцьця „водгульле“ i „Спадчыну“ адраджэньня.

А беларуская лiтаратра ў падаўляючай сваей большасьцi, ў асобе займалася перапевамi старога. Таго старога, што добра былоб раней, некольki год тому назад, але што сеньня зьяўляецца лiтаратурным анахронiзмам.

Але „жыцьцё не стаiць, а круцiць.“ Жыцьце вымагае. Жыцьце становўча ставiць пытаньне аб новай культуры, аб новай лiтаратуры.

I ня чуць гэтага нельза. Толькi тыя, чые вушы заткнуты ватай старых традыцый ня чуюць.

Ня чуюць моцных мяровых крокаў новых гаспадароў жыцьця.

I вось тут пытаньне.

Так гэта добра для лiтаратуры расейскай, дорэволюцыйныя прэдстаўнiкi якой у пачатку ня „прыялi“ рэвслюцыю. Там былi прычыны. Як сацыяльнага, так i экономiчнага характара.

Але ў нас на Беларусi, дзе поэты i пiсьменьнiкi былi лепшымi прэдстаўнiкамi беларускага сялянства. Якiя на сваiх плячох несьлi цяжар барацьбы за нацыянальнае i сацыяльнае вызваленьне.

Чаму яны калi гэта рэволюцыя прышла не далi яе ў сваей творчасьцi. Гэта ж iм блiзка, гэта ж зьдзейсьненьне, здавалася iх мар. Здавалася. Здавацца шмат чаго можа, вясной асаблiва, калi кроў па другому маладому пералiваецца зьвiнiць ў жылах.

Але калi мы цьвяроза глянем, калi мы цьвяроза разьбяромся ў гэтым мы ўбачым, што частка беларускай iнтэлiгэнцыi крыху iнакшай уяўляла сабе Беларусь, тую Беларусь, якая павiнна была прысьцi пасьля рэволюцыi

Атуленая нацыянальна-дэмократычнымі думкамі, старымі народніцкімі традыцыямі яна ня бачыла, што нават тут у нас на Беларусі ў краіне сялянскай вырасла новая сіла, сіла заводаў і фабрык—пролетарыят. Ім здавалася, што у нашай краіне, краіне переважна сялянскай, сялянства павінна тварыць рэволюцыю.

Пролетарыят под кіраўніцтвам і побач з кім павіннаісьці сялянства ня быў гістарычна апраўданым.

Жыцьцё нашых дзён, шпаркі узрост экономікі, а разам з тым і культуры Беларусі паказалі, што толькі дыктатура пролетарыяту ў нашых умовах, умовах сялянскае Беларусі ёсьць правільны шлях.

Жыцьцё вымагала. Жыцьце ясна ставіла пытаньне. І вось на старонках нашых газэт, на старонках беларускіх часопісаў пачынаюць зьяўляецца творы у якіх крынічыць новае жыцьцё.

У якіх спачатку нясьмела, а потым усе мацней і мацней чуецца голас новага прышаўшага.

Выходзяць „Босыя на вогнішчы“ Чарота. Поэма, якая вызвала рэзкія напады з аднаго боку і выхваленьне з другога.

28 лістапада 1923 г. у невялічкім пакоіку клюбу Кім'а ў Менску сабраліся некалькі маладых беларускіх пісьменьнікаў і поэтаў і утварылі літаратурную групу.

Яны згуртаваліся дзеля таго каб адзіным фронтам выступіць на барацьбу за новую, рэволюцыйную беларускую літаратуру.

Помню—у правінцыі сьмяяліся. Як гэта вы хочэце быць блізкімі да масы, хочэце тварыць творы, якія былі-б роднымі і зразумелымі беларускаму рабочаму, беларускаму селяніну, а ў сваей апублікаванай „Замест дэклярацыі“ („Маладняк“ № 6) пішэце:

„Згуртаваліся дзеля таго, каб ідэі матар'ялізму, марксізму і ленінізму ажыцьцёвіць у беларускай мастацкай творчасьці.“

Пэўна вы думаеце, што матар'ялізм, марксізм і ленінізм зразумелы масам?

Людзі не разумелі. Ім здавалася, што ажыцьцяўленьне ідэй, вызначаных Маладняком ці утварыць творы, якія будуць незразумелы масам, ці зьвядзець беларускую літаратуру да звычайных агітак.

Прайшло гэта.

Вечары і выступленьні „Маладняка“ ў Менску і па акругах наблізілі творчасьць маладнякоўцаў да самых шырокіх мас.

Масы беларускіх рабочых і сялян, якія рэволюцыя вызвала к жыцьцю убачылі ў творчасьці „Маладняка“ сваё, роднае, чаканае.

Словы аб незразумелосьці маладнякоўскае творчасьці ўжо адпадаюць.

Рэволюцыя дала працоўным ня толькі соцыяльнае і нацыянальнае вызваленьне, яна абудзіла у іх вялікае імкненьне і да культуры.

У першыя гады, калі „на палёх здрадованых прыбітых“ грымелі грымоты навальніцы было не да культуры.

Трэба было бараніць рэволюцыю. Трэба было ў партызанскіх атрадах змагацца за Беларусь савецкую.

Мінула гэта.

Прыйшло мірнае будаўніцтва. Усталі увасю сваю шырыню пытаньні быту, пытаньні культуры. У глухіх кутках, па вёсках і раёнах Беларусі зьяўляюцца культурныя сілы, якія праз селькорства, праз допісы ў газэты дапамагаюць гэтаму будаўніцтву. Паруч з допісамі таварышы пачынаюць пісаць вершы і апавяданьні, бо культурная рэволюцыя праз літаратуру, праз уплыў мастацкіх твораў нарадзіла у іх моцнае імкненьне да творчасьці, да літаратурнае працы.

У ранейшыя часы, часы дорэволюцыйныя, сколькі талентаў марна загінула, заціснутых умовамі жыцьця.

Для прыкладу хоць бы Паўлюк Бахрым-прэдстаўнік беларускага сялянства эпохі прыгоннага права-талент якога загінуў марна.

Тут на дапамогу новым поэтам і пісьменьнікам, ідучым з шэрагаў сялян і рабочых ідзець „Маладняк.“

Шпаркі узрост „Маладняка“, які за два з паловай гады свайго існаваньня з групы Менскіх поэтаў і пісьменьнікаў разросься ува Ўсебеларускае аб‘яднаньне, маючае свае філіі (аддзяленьні) ня толькі па акругах Беларусі, але і за яе межамі сьведчыць аб тым, што шлях „Маладняка“ шлях гуртаваньня навокала сябе поэтаў і пісьменьнікаў, народжаных рэволюцыей, ці пераплавіўшых у горане рэволюцыі свае старыя погляды, правільны.

Арганізаваўшаяся ў Барысаве ў красавіку 1925 г. філія „Маладняка“ адной з сваіх асноўных ліній пастанавіла выяўленьне і згуртаваньне навокала сябе беларускіх паэтаў і пісьменьнікаў Барысаўшчыны.

Помню нашы першыя сходы. Больш займаліся разглядам чужых твораў, твораў старэйшых беларускіх пісьменьнікаў і маладнякаўцаў.

Але паступова і таварышы, наведываючыя нашы сходы пачалі выступаць з чыткай сваіх твораў.

Праўда, першыя творы былі слабыя з боку формальнага, з боку вершаскладаньня. У іх пераважалі мотывы газэт, барацьба працы з капіталам, сусьветлая комуна і г. д.

Творчасьць старых беларускіх поэтаў з формальнага боку рабіла моцны уплыў на творчасць нашых товарышоў.

Паступова праца разгортываецца, навокала філіі групуюцца Паўлоўскі, Ніўны, Мурашка,, Фомін, Касьцюк, Гаеўскі, Новік, Жызнеўскі, Равуцкі і інш...

Адным з галоўных заданьняў філіі ў гэты час зьяўляецца вучоба. Апанаваньне спадчынай ранейшай літаратуры каб пераапрацаваўшы гэты матер'ял тварыць свае, тварыць новае

Цяпер некалькі слоў аб нашым актыве аб таварышах якія сябе ўжо выявілі ў друку, якія паказалі свой творчы твар. Рыгор Мурашка. Шэрая чырвонаармейская шынель, з кішэні заўсёды выглядае пук газэт і папер. Палітпрацаўнік № артпалка.

Творы яго друкуюцца ў „Савецкай Беларусі", „Полымі" Цяпер у выданьні ЦБ „Маладняка" выходзіць зборнік яго апавяданьняў „Стрэл начны ў лёсе".

Вялікую увагу ён зварачае на слова. Слова гэта той каменьчык з якога будуецца твор. І вось вялікую увагу ен зварачае на мову сваіх твораў. Возьмем хоць бы начатак яго „Стрэла начнога ў лесе". „Цемна і ціха. Ціха і цемна. Ноч. Лес. Сосны іглістыя ў цемным убраньні стаяць. Сьпяць мо. Мо думаюць". Адразу уяўляет сабе лес ноччу. Лес у якім рыхтуецца забойства селькора.

У яго апавяданьнях „Шлемка-пернічнік", „Гадэм", „Каваль Максім", „Бросьня вясновая" перад намі жыцьце. Жыцьце то беднага местачковаго яўрэя, то Каваля Максіма —жыцьцё вёскі.

У аўтара багатая наглядальнасьць. Нават драбніцы жыцьця аднатоўвае ён у сваіх творах.

У апошніх творах, як „Пытаньні", „Два і адна" ён спрабуе даць горад, жыцьцё рабочага, жыцьце жыхара гораду. Спрабуе падысьці да спрадвечных пытаньняў чалавечага жыцьця.

С. Фомін. Калі чытаем яго вершы міжвольна захапляемся іх музычнасьцю, міжвольна захапляемся мэлёдыей.

Паэта прышоў з вёскі. Простор васільковых і рамашкавых палёў захапіў яго.

У творах яго цьвітуць рамашкі. Але сегодня новае жыцьце, сягоньня на палёх рамашкавых мерна грукоча трактар.

Ён ведае, што:

„Будзе трактарам маторам
Сеньня рэзацца па новаму зямля
І мае рамашкавыя гоні
Перастануць ў далях красаваць“.

Але ён ведае і то, што трэба трактор павінна і быць тому.

Касагораў белыя грудзі
Аддаліся без барацьбы.

Буйны, яшчэ не надрукованы цалком, твор. „Перазвоны восені“. Поэма аб перазвонах восені, аб жоўтых лістах на дрэвах і аднасчасна аб каханьні, аб радасьці, аб шчасьці.

Найбольш яму удаюцца лірычныя вершы, як напр. „Вясна адыходзіла садам“, „Растапталіся цяжкія боты“ „Восень зноў“.

У яго ня толькі сум па рамашкавых палёх, ночы месячныя, спатканьні радасныя, узрушаючыя. Ён знаходзіць патрэбныя словы і вобразы для новага, прыоўшага, сягоньнешняга.

У „Маладняку“, „Савецкай Беларусі“, „Маладым Аратым“ раскідана зусім нязначная частка яго творчасьці. Шмат яшча ня друкавана. Паэта творыць і у гэтай творчасьці начынае ужо выкрысталізоўвацца сваё фомінскае.

Тодар Паўлоўскі. Шэрая сялянская сьвітка. У гэтай сьвітцы прышоў ён на нашы сходы. Паўлоўскі і шэрая сьвітка пакуль непадзельны.

Ад агітак, ад газэтнай лёзунговасьці ён паступова адышоў і зьвярнуў значную увагу на вучобу. Успрыняць літаратурную спадчыну старога і карыстаючыся ёю даць сваё, вось да чаго ён ідзе сягоньня.

Напісана ім п‘еса а 3 актах „Жыхары лесу“ з жыцьця заходняй Беларусі. Яе ставіла філія ў часе сваей гадавіны.

Зразумела-яшчэ шмат шурпатасьцей, ня зусім дакладнае знаемства з умовамі сцэны, але аднасчасна п‘еса сцэнічна, у ей есьць дынаміка, у ей есьць жыцьце. У яго вершах пераважаюць мотывы вёскі: жыцьце і праца селяніна, прырода, навая вёска; новат у сваіх вершах аб горадзе ён даець горад, як поэта вескі.

Алесь Ніўны. Яшчэ ня знайшаў свайго шляху. Богатая продукцыя—поэмы, вершы, п‘еса.

Поэта помніць

.....дні у залацістым полі

Звон касы на роснай сенажаці.

Аднак моцна адбіваецца, бадай агульная беларуская пісьменьніцкая хвароба,-слабое знаемства з старымі скарбамі сусьветнай літаратуры. Так сама шкодзяць неахайныя адносіны да творчасьці. Мала працуе над вершам і таму поруч з месцамі, якія безумаўна каштоўны, ёсьць слабыя.

Апошнія творы паказваюць, што поэта можа даваць добрыя, мастацкі-апрацованныя вершы.

Гэта актыў, гэты таварышы якія сябе больш-менш выявілі.

На сходах апрача іх выступала з чыткам сваіх твораў яшчэ 12-15 асоб. Апавяданьні, вершы, поэмы, рэцэнзіі...

Філія за час сваей працы апрача літаратурнага росту таварышоў, дала яшчэ шмат асобам, якія наведвалі нашы сходы.

Даклады аб напрамках літаратуры, разгляд творчасьці паасобных сучасных пісьменьнікаў, чытка новых твораў, даклады аб мастацтве, аб шляхах мастацтва у нас пашырылі іх літаратурныя веды і сьветапогляд.

Тая цяга да Маладняка з боку шырокіх мас у якіх культурная рэволюцыя ўзбудзіла імкненьне да літаратурнае творчасьці, паказваець, што шлях „Маладняка“, шлях гуртаваньня навокала сябе ня толькі пісьменьнікаў ужо выявіўшых сябе, але і тых якія сягоньня ідуць у літаратуру правільны.

Пад знакам літаратурнай і політычнай вучобы павіна ісьці далейшая маладнякоўская праца.